# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### САТА Ў АДСТАЎЦЫ

Прэм'ер-міністр Японіі Эйсаку Сата падаў у адстаўку і адначасова адмовіўся ад пасады старшыні правячай ліберальна-дэмакратычнай партыі. 71-гадовы прэм'ер-міністр аб'явіў аб гэтым у часе пасяджэння парламенцкай секцыі сваёй партыі. Будзе ён выконваць свае абавязкі да часу выбару новага старшыні партыі, які аўтаматычна стане новым прэм'ер-міністрам Японіі.

### НОВЫЯ ВЫБАРЫ Ў ФРГ

У сталіцы ФРГ гаворыцца аб датэрміновых выбарах у бундэстаг, якія павінны даць магчымасць выхаду з парламенцкага тупіка. Гэты тупік паўстаў з прычыны пераходу некалькіх дэпутатаў урадавай кааліцыі ў апазіцыю. У сувязі з гэтым абедзве групіроўкі маюць зараз роўную колькасць мандатаў — па 248. Урад не можа прымаць рашэнні супраць волі апазіцыі, а апазіцыя не можа звергнуць урада.

### ФАКТЫ З В'ЕТНАМА

У заяве камісіі па даследаванню ваенных злачынстваў у В'етнаме гаворыцца, што пачынаючы ад красавіка г.г. амерыканскія самалёты правялі 2.050 разведачных палётаў над гарадамі і правінцыямі Паўночнага В'етнама. Ад 1 чэрвеня гэтага года зарэгістравана 418 разведачных палётаў авіяцыі ЗША над Паўночным В'етнамам.

Самалёты тактычнай авіяцыі Злучаных Штатаў у красавіку і маі правялі 9.300 самалёта-вылетаў на тэрыторыю Паўночнага В'етнама, скідаючы больш 37.700 фугасных бомб, больш 940 кантэйнераў з шарыкавымі бомбамі, нанеслі вялікую колькасць удараў з дапамогай ракет на гарады, правінцыяльныя цэнтры, школы, бальніцы і г.д.

### ТУРЫЗМ У БАЛГАРЫІ...

На сёлетні турыстычны сезон Балгарыя падрыхтавала 21 новую гасцініцу і дом адпачынку. Павялічылася таксама колькасць новых кемпінгавых домікаў. Індывідуальныя турысты атрымалі 5.500 новых месц на палатковых палях і на 10 тыс. больш месц у прыватных кватэрах.

### ...І ВЫЕЗДЫ Ў ГДР

Камісія па справах турызму між Польшчай і ГДР ацаніла рэалізацыю пастаноў адносна аблягчэння выездаў (паміж Польшчай і ГДР) на працягу 5-ці месяцаў ад моманту ўвядзення гэтых пастаноў.

Ацэнка была вельмі пазітыўнай. Ад 1 студзеня па 31 мая г.г. у ГДР пабывала каля 3 мільёнаў турыстаў, а ў Польшчы — каля 2,5 мільёнаў турыстаў з ГДР. Для параўнання трэба дадаць, што на працягу ўсяго мінулага года ў Польшчы прабывала каля 500 тыс. грамадзян ГДР, а ў ГДР выехала 170 тыс. грамадзян Польшчы.

### БАГАЦЦІ ЮГАСЛАВІІ

У раёне горада Цітова-Ужыцэ югаслаўскія геолагі адкрылі багатыя залежы меднай руды, свінцу, цынку, хрому і іншых каштоўных металаў. Залежы меднай руды ацэньваюцца ў 2 мільёны тон. (ак)



## БССР

### ВІЗІТЫ ПАЛЯКАЎ

У гасцях у працоўных Мінскай вобласці пабывала дэлегацыя Варшаўскага ваяводства. Узначальваў яе член ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі, — першы сакратар Варшаўскага ваяводскага камітэта ПАРП Казімеж Ракашэўскі. У складзе дэлегацыі былі старшыня Прэзідыума Варшаўскай ваяводскай рады нарадовай Збігнеў Зялінскі, сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП па сельскай гаспадарцы Антоні Палоўняк, кандыдат у члены ЦК ПАРП, рабочы Плоцкага нафтахімічнага камбіната Стэфан Кавальскі, генеральны дырэктар трактарнага завода «Урсус» Здзіслаў Кун і іншыя асобы.

Польскую дэлегацыю прыняў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Пётр Машэраў.

У наступныя дні польскія госці наведалі Мінскі трактарны завод, саўгас «Мінская гароднінная фабрыка», пабывалі ў Нясвіжскім раёне, дзе азнаёміліся з арганізацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці, з планамі развіцця калгасаў, з жыллёвым і культурным жыццём на вёсцы.

Іншая група палякаў, якую склалі перш за ўсё былыя воіны, наведала Курган Славы, мемарыяльны комплекс Хатынь. Дзяржаўны музей Вялікай Айчыннай вайны, сустрэліся з прадстаўнікамі Беларускага рэспубліканскага савета ветэранаў вайны.

### БРЭСТ — ЛЮБЛІН

У Любліне на сяброўскіх гастролях выступаў народны ансамбль песні і танца «Брэстчанка». Жыхары Любліна вельмі цёпла сустрэлі беларускіх артыстаў-самадзейнікаў. Пры нагодзе варта адзначыць, што між Люблінскім ваяводствам і Брэсцкай вобласцю ўжо даўно завязалася блізкае сяброўскае прыгранічнае супрацоўніцтва.

### БЕЛАРУСЬ НАВУКОВАЯ

У Беларусі да 1917 года не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Сёння працуе тут больш за 170 навукова-даследчых інстытутаў, а колькасць навуковых супрацоўнікаў перавышае 21 тысячу. З іх каля 6 тысяч маюць навуковыя ступені кандыдатаў і дактароў навук.

Калі ў 1939 годзе ў Беларусі з тысячы жыхароў толькі пяць мелі вышэйшую адукацыю, то да пачатку 1970 года было іх 35 чалавек. Самы высокі прырост адукаваных людзей наглядаўся ў 1959 — 1970 гадах. Цяпер у народнай гаспадарцы БССР працуе больш за 620 тысяч дыпламаваных спецыялістаў.

### БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Кнігі беларускіх выдавецтваў экспартуюцца ў 80 краін свету. Гэты факт гаворыць аб іх высокіх паліграфічных вартасцях. Дарэчы, дванаццаць беларускіх выданняў удастоены міжнароднай прэміі.

### НОВАЯ ГАСЦІНІЦА

Нядаўна ў Мінску адкрыта новая гасцініца «Турыст». 15-павярховы будынак вырас на ўскраі лесапарку па праспекце Партызанскім. У гасцініцы прасторныя холы, зручныя нумары, цырульня, пошта, кінатэатр на 220 месц, танцавальная зала, лабараторыя для фотааматараў, рэстаран, басейн.



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

13 чэрвеня г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім быў разгледжаны план рэалізацыі праграмы развіцця краін-членаў СЭУ і праграмы развіцця і ўдасканальвання паслуг для людзей да 1980 года. Палітбюро рашыла склікаць у ліпені г.г. агульнадзяржаўную нараду, на якой будуць абмеркаваны ўсе гэтыя праблемы. У чарговым пункце пасяджэння Палітбюро ЦК ПАРП знаёмілася са справамі падрыхтоўкі да сёлетняга жніва. На заканчэнне пасяджэння Палітбюро звярнулася з пісьмом да ўсіх сялян, сельскагаспадарчых арганізацый, устаноў, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку і работнікаў рад нарадовых адносна тэрміновай і паспяховай уборкі збожжавых культур у гэтым годзе.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

17 чэрвеня Прэзідыум урада разгледзеў тэзісы аб урэгуляванні судовага кантролю над адміністрацыйнымі рашэннямі і аб працы над удасканальваннем сістэмы стварэння правоў, прагноз сітуацыі адносна фінансавай раўнавагі дзяржавы і забеспячэння рынку харчовымі прадуктамі і прамысловымі таварамі ў другім паўгоддзі г.г. Апрача таго, Прэзідыум урада разгледзеў і адобрыў абавязкі і статут новага рэсорта Міністэрства навукі, вышэйшага школьніцтва і тэхнікі, прыняў пастановы адносна рамонту грузавых вагонаў, аплачвання перагрузчыкаў і стварэнне Аб'яднання механізацыі будаўніцтва «ЗРЭМБ».

### НАРАДА ПАРТЫЙНАГА АКТЫВУ

16 чэрвеня адбылася цэнтральная нарада партыйнага актыву, якая прысвячалася абмяркоўцы актуальных праблем у галіне гаспадарчай і замежнай палітыкі ПНР, а таксама ідэйна-выхаваўчай працы. Нараду вёў І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА

15 чэрвеня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў у сябе з нагоды святкавання Дзён мора дэлегацыю работнікаў мора і матросаў. Работнікі марской гаспадаркі паведамілі І-му сакратару ЦК ПАРП аб сваіх поспехах у штодзённай працы, аб паляпшэнні ўмоў працы і аб будаўніцтве жылых кватэр. І сакратар ЦК сардэчна падзякаваў людзям мора за іх працу і давер новаму кіраўніцтву партыі, яўным доказам якога з'яўляюцца зараз добрыя прадукцыйныя вынікі. Варта адзначыць, што рабочыя марской гаспадаркі дасягнулі значных поспехаў у пабудове суднаў на экспарт, у рыбалоўстве і ў механізацыі работ. З нагоды святкавання Дзён мора будзе перададзена ў карыстанне халадзільня ў Свінауйсці. Шпаркімі тэмпамі ідзе пабудова Паўночнага порту ў Гданьску, новых докаў, прадпрыемстваў рыбнай прамысловасці, сацыяльных і іншых аб'ектаў.

### ВІЗІТ У Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

14 чэрвеня 1 сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер П. Ярашэвіч правялі сустрэчу з дзяржаўнай дэлегацыяй СССР, якая наведала Познанскую ярмарку. На сустрэчы былі абмеркаваны важнейшыя праблемы адносна далейшага развіцця польска-савецкага гаспадарчага супрацоўніцтва. (ця)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

17 чэрвеня ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі. Пленум быў прысвечаны справам медыцынскай апекі над насельніцтвам нашага ваяводства.

Вёў пленум І сакратар ВК партыі З. Куроўскі. Апрача членаў ВК на пленум было запрошана шмат прадстаўнікоў службы здароўя. Ад імя цэнтральных улад на пленуме прысутнічалі міністр здароўя і грамадскай апекі М. Слівінскі, намеснік кіраўніка адміністрацыйнага аддзела ЦК партыі Р. Стэцько і старшыня ГП прафсаюза працаўнікоў службы здароўя Я. Бернацік.

На пачатку пасяджэння была вырашана адна адміністрацыйная справа. Паколькі сакратар ВК партыі С. Рубчэўскі быў выбраны старшынёй Прэзідыума ВРН у Ольштыне, неабходна было звольніць яго ад абавязкаў сакратара і члена экзекутывы ВК партыі ў Беластоку. У сувязі з гэтым экзекутыва ВК падрыхтавала для С. Рубчэўскага спецыяльны ліст з падзякай за шматгадовую працу ў нашым ваяводстве. На пасаду сакратара пленум выбраў ранейшага кіраўніка эканамічнага аддзела ВК М. Нядзведзя.

З уступным словам аб справах медыцынскай апекі выступіў І сакратар ВК З. Куроўскі. Праблемы медыцынскай апекі, як падкрэсліваў сакратар, трэба бачыць не толькі з таго пункту гледжання, але каб стварыць грамадству магчымасць карыстацца ўсімі дабрадзействамі медыцыны. Патрэбны для гэтага высокакваліфікаваныя медыцынскія кадры. У нашым ваяводстве адчуваецца асабліва вялікі недахоп кадраў сярод лекараў-дэнтыстаў, фармацэўтаў і медсясцёр. Таму больш увагі трэба звярнуць на дакладнейшае дзяленне кадраў, на вызначэнне штатаў. Велізарную ролю ў падрыхтоўцы кадраў спаўняе Медыцынская акадэмія. Яна пастаўляе і ўдасканальвае кадры і супрацоўнічае з пляцоўкамі службы здароўя ўсяго нашага ваяводства. Вельмі ў многіх мясцовасцях існуе неабходнасць будаваць аб'екты для пляцовак службы здароўя і бальніц. Таму Міністэрства здароўя і грамадскай апекі, беручы пад увагу велізарныя патрэбы нашага ваяводства ў гэтай галіне, прызнала нам значна большыя фінансавыя сродкі (на 86%) на будаўніцтва, чым у папярэдняй пяцігодцы. Неабходна таксама выкарыстаць як найшырэй усе мясцовыя рэзервы, асабліва грамадскую працу для падтрымкі і найбольш эфектыўнага выкарыстоўвання прызначаных грошай.

У шырокай дыскусіі парушаўся цэлы шэраг спраў, звязаных са службай здароўя: кадры, прамысловая служба здароўя, будаўніцтва медыцынскіх пляцовак, апека над старымі людзьмі, супрацоўніцтва адкрытага і бальнічнага лячэння і шмат, шмат іншых.

Выступіў таксама міністр М. Слівінскі. Ён падкрэсліў вялікі ўзрост рангу спраў здароўя.

Пленум прыняў пастанову, у якую былі ўключаны ўсе прапановы з дыскусіі. (яч)




**NIEDZIELA, 25.VI.**

7.45 Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1972". 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 „Opowieści z dna morza" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 9.25 „Radar". 9.35 „Moje pierwsze filmy" („W starym kinie"). 10.40 „W obiektywie". 11.10 Gra Orkiestra TV Katowice pod dyr. I. Wikarka. 11.35 „Pióropusze i ostrogi" cz. II relacji St. Szwarc-Bronikowskiego z wyprawy do Ameryki Południ. 12.05 Dziennik. 12.25 „Przemiany". 12.55 Dla dzieci: M. Konopnicka — „Na jagody" (widowisko Państw. Teatru Lalki i Aktora „Baj" w Warszawie). 14.00 „Gwiazdy cyrku" — program cyrkowy. 15.00 Spotkanie z pisarzem". 15.30 „Anna German śpiewa morskie piosenki". 16.00 „Flaga na maszt" — program z okazji święta Marynarki Wojennej. 16.50 Transmisja z zakończenia VIII Bałtyckiego Wyścigu Przyjaźni. 17.40 Transmisja z uroczystości odsłonięcia pomnika Władysława Broniewskiego (Płock). 18.45 Dobranoc. 18.55 „Straszny Dwór" — opera St. Moniuszki (transmisja z Teatru Wielkiego w Warszawie). W przerwie I ok. 19.45 Dziennik. W przerwie II: PKF. 22.35 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK, 26.VI.**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Program filmowy. 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Spacerkiem po kinach" 18.30 „Nasz współczesny" — film Tele-Aru. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: H. Ibsen — „Wróg ludu". 21.35 „Życiorys niezwykłego człowieka" — Antoni Bolewła Dobrowolski („Wielcy znani i nieznani"). 22.15 Recital fortepianowy Aleksandry Utrecht. 22.35 Dziennik.

**WTOREK, 27.VI.**

10.00 „Porwanie dziewic" — film fab. rum. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przed nami wakacje". 15.20 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Oferty". 16.55 Ekran Młodych. 17.50 Międzynarodowe Zawody Lekkoatletyczne o Memoriał J. Kusocińskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Porwanie dziewic" — film fab. rum. 21.35 „Będziesz myślał w krzyku" — program publ. 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**ŚRODA, 28.VI.**

10.00. „Poszukiwania" — film czechosł. („Wyrok") odc. IV. 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TV Kurier Warszawski. 17.00 „Jaszczurki i kameleony" — film wł. („Poznajmy przyrodę"). 17.20 „Mieszkaniowe progi". 17.50 Międzynarodowe Zawody Lekkoatletyczne o Memoriał J. Kusocińskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Poszukiwanie" — film czechosł. („Wyrok") odc. IV. 20.45 „Światowid — Świat i Polska". 21.15 Łódzkie Spotkania Baletowe. 22.00 Dziennik. 22.15 Sportowy magazyn sprawozdawczy z zakończenia Ligi Piłkarskiej.

**CZWARTEK, 29.VI.**

15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Informacje, Towary, Propozycje". 16.55 PKF. 17.05 „Mistrzowie i co dalej". 17.35 TV Kurier Olsztyński. 17.55 „Kobieta beztroska" („Wieczorowy Uniwersytet dla Starszych Panów"). 18.25 „Interwencja" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Przypominamy, radzimy". 20.10 „Skazany" — film fab. franc. 21.05 „Zbliżenia". 21.35 „Expres" odc. III. 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**PIĄTEK, 30.VI.**

10.00 „Szklana góra" — film fab. pol. 11.30 „Milczące lasy podwodne" — film kanad. — USA („Człowiek i morze"). 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Teleferie". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 TV Kurier Mazowiecki. 18.15 „Dialogi historyczne" 18.45 „Śpiewa Wanda Polańska" — recital piosenek i arii operetkowych. 19.10 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Milczące lasy podwodne" — film kanad. — USA („Człowiek i morze"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: St. Wyspiański — „Warszawianka". 22.10 Dziennik.

**SOBOTA 1.VII.**

10.00 „Znaki na drodze" — film fab. pol. 16.20 Program dnia. 16.25 Program I proponuje. 16.45 Dziennik. 16.55 TV Informator Wydawniczy. 17.20 „Spotkania z przyrodą". 17.45 „Morze, gospodarka, obronność" — teleturniej („Polska leży nad Bałtykiem"). 18.35 „Godzina Orfeusza" — mag. aktualności muzycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Znaki na drodze" — film fab. pol. 22.10 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.35 „Pływające miasta" — program estradowy.




**Piątek, 23 czerwca**

8.15 Film fab. 9.25 Koncert chóru. 10.10 Filmy dokument. 11.10 Nowiny. 13.45 Program dnia. 15.00 Koncert zespołu ludowego „Żyguli". 16.00 Panorama nowin. 16.20. Poezja. 16.35 Film fab. 17.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Tbilisi) — CSKA. 17.45 Świat socjalizmu. 18.20 Koncert Zykiny. 19.00 Czas. 19.30 Spektakl TV. 20.30 Panorama nowin.

**Sobota, 24 czerwca**

7.00 Program dnia. 7.35 Nowiny. 7.45 Koncert chóru. 8.15 Film fab. 9.15 Koncert. 10.10 Przegląd międzynarodowy. 10.25 Szkatułka muzyczna. 10.50 Filmy animowane. 11.20 Film TV. 12.20 W świecie zwierząt. 13.30 Panorama międzynarodowa. 14.00 Spotkania muzyczne. 16.00 Nowiny. 16.10 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.00 Nowiny.

**Niedziela, 25 czerwca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Filmy animowane. 8.15 Kiosk muzyczny. 9.15 Spektakl dla dzieci. 10.15 Dla żołnierzy. 10.45 Wszechzwiązkowy festiwal twórczości ludowej. 12.00 Nowiny. 12.05 Dla wsi. 13.05 Pieśń radziecka. 13.40 Turniej TV. 14.15 Uniwersytet ludowy. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 Spektakl Teatru Wielkiego. 16.40 Film dokumentalny. 17.40 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 W eterze „Młodość".

 

# ФЭСТЫН У ПАЎЛАХ

**4** чэрвеня. Паўлы, Бельскі павет. **Цудоўны, сонечны** дзень. На вялікай прышкольнай пляцоўцы ўпрыгожаная маладымі бярозкамі сцэна. Тут адбудзецца асноўная праграма традыцыйнага ўжо бэгэкатоўскага свята. У гэтым годзе ў бельскім аддзеле гонар арганізавання фэстыну выпаў Паўлам. Невыпадкова. Паўлы даўно славяцца актыўнасцю грамадскага дзеяння. Тут працуе адзін з найлепшых драмгурткоў БГКТ, сёлетні пераможца цэнтральнага тэатральнага агляду. Ёсць і іншая нагода. Па-суседску са школай вырас прыгожы будынак — гордасць жыхараў вёскі. Будавалі яго супольна. Найперш ападаткаваліся (сабралі 30 тысяч зл.), потым здабылі ў Беластоку (бясплатна) будынак, які быў прызначаны пад «разбюрку», разабралі яго, перавезлі (мясцовы сельгасгурток: грамадска), пабудавалі, закончылі. Будзе дасканалая святліца. Памагла, вядома, дзяржава (180 тысяч зл). Але найбольш лічыцца грамадская праца. Каб не яна, сёння не адкрывалі б мы святліцы. Менавіта гэты момант падкрэслівае перад сабраўшыміся вакол новай святліцы паўлаўцамі старшыня ГРН Віктар Галубоўскі.

Яшчэ толькі інспектар да спраў культуры павятовай рады Антаніна Куна перарэжа ножнічкамі бела-чырвоную стужку, і дзверы святліцы адчыняцца. Будзем мець надзею, што гэты грамадскі будынак добра будзе служыць вёсцы ў далейшым яе развіцці.

Праграму на сцэне адкрывае выступленне старшыні бельскага аддзела БГКТ, дырэктара беларускага ліцэя Аляксея Карпюка. Затым пераходзіць яна ў рукі самадзейнікаў. Выступаюць школьныя калектывы з Плёсак і Бельскага беларускага ліцэя, квартэт дзявочы з Плёсак і бельскі хор. Здзіўляюць прыгожымі галасамі і добрым выканаўствам. **Слухаючы гэтых нашых** дасканалых аматараў, яшчэ раз пераконваемся, што песня здольна зрабіць многа. Хіба таксама гэта меў на думцы і сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк, калі ў перапынку паміж выступленнямі бельскага хору звяртаўся да мясцовых жыхароў, каб яны да дасканалага драмгуртка дакінулі яшчэ і ўласны спявачы калектыў. Што скрываюцца тут і ў гэтай галіне праўдзівыя таленты, пераканаліся мы на сяброўскай **сустрэчы грамадскага** камітэта пабудовы святліцы пасля мастацкай часткі.

Апрача песні Паўлы жылі ў гэты дзень і спортам. Іх футбольная дружына вяла ўпарты і драматычны бой з Плёскамі. Шчасце мянялася часта. Урэшце стала яно на баку паўлаўскіх футбалістаў.

Многа ўражанняў далі таксама ўдзельнікам фэстыну спаборніцтвы пажарнікаў. Яны паказалі добрую «баявую» падрыхтоўку.

А пасля непадзельна панаваў эстрадны аркестр Бельскага беларускага ліцэя. Пад яго гукі да позняга вечара танцавала мясцовая моладзь. Думаю, што ёй беларускі фэстын спадабаўся найбольш.

Р. Лясун

Фота Цаф — Р. Сянько



*Нічога, што «лёс» пусты. Хто не мае шчасця ў латарэі, той... Але паспрабаваць варта.*



*Кожны перажывае фэстын па-свойму. Абыякавых няма.*



*Школьны квінтэт з Плёсак здабыў яшчэ адну пяцёрку. Гэтым разам ад удзельнікаў фэстыну.*



*Выступае старшыня аддзела БГКТ у Бельску Аляксей Карпюк.*



*Прыгожа спяваюць плёскаўскія дзяўчаты.*



*Пажарнікі добра ведаюць сваю справу.*



*Не гарантуем, ці наш фотарэпарцёр злавіў той момант, у якім быў забіты рашаючы гол, але можам інфармаваць:* ***выйгралі Паўлы 4:3.***



*Спяваюць вучаніцы Бельскага беларускага ліцэя Люда Рыбак і Оля Самоцік.*



*У бельскім хоры, як заўсёды, не хапала мужчын. Не падвялі жанчыны, і выступленне выйшла на славу.*

 

Пачатак на стар. 1



# ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ МОЛАДЗІ

праяздная, быццам на далоні. У кастрычніку мінулага года члены рыбалаўскага гуртка ЗМВ перавыбралі сваё праўленне, і гэта памагло. Быў такі час, што сходы там адбываліся што некалькі дзён, бо неабходна было калектыўна вырашаць розныя справы. Рыбалаўская моладзь хоча адрамантаваць святліцу. Нейкі, яшчэ нядрэнны дом застаўся ў Рыбалах без гаспадара. Яго (фармальна) пераняла грамадская рада. Пры будынку знаходзіцца зручная пляцоўка. Моладзь хоча ўласнаручна ўсё гэта адрамантаваць і абсталяваць там святліцу. Гэты ж самы рыбалаўскі гурток узяў пад сваю апеку пункт скупкі жывёлы. Справа вельмі важная, бо аб махлярствах класіфікатараў і ваговых здаўна ходзяць цэлыя легенды.

А вось яшчэ іншы прыклад.

У Грыневічах Вялікіх солтыс намагаўся даказаць, што моладзь у іх вёсцы адно толькі хуліганіць. Справа мелася больш-менш так. Грыневічанская моладзь хацела мець уласны вясковы клуб. У той час солтыс якраз будаваў новы, мураваны дом, у якім рашыў адзін пакойчык адступіць для патрэб моладзі. Гэты пакой быў яшчэ ў «суровым» стане. Моладзь уласнаручна яго абсталявала, ды яшчэ паправіла дарогу з Грыневіч у Бельск, каб «Рух» мог у іх клуб дастаўляць тавары. Солтыс год часу браў грошы ад ГРН за наём пакойчыка, а пасля рашыў выгнаць моладзь разам з клубам са сваёй хаты і пачаў «аплёўваць» яе дзе толькі мог, бо дармэная дапамога маладых рук не была ўжо яму патрэбна. Члены ЗМВ з Грыневіч перанеслі свой клуб у іншы прыватны будынак, дзе атрымалі два пакойчыкі, якія на працягу тыдня часу зноў супольнымі сіламі прыстасавалі для патрэб клуба. Працавалі да 1—2-ой гадзіны ночы. Адначасова даказалі, што не яны, а солтыс з'яўляецца п'яніцай і грамадскім хуліганам.

— Ці яшчэ патрэбны вам канкрэтныя прыклады? — пытае Юрка Левацюк. — Бо я магу расказваць пра моладзь з Міклашоў, Крывой, Малочак, Алексіна, Даманова, Боцек і многіх іншых вёсак.

— На гэты раз вам дзякую. Вы мяне поўнасцю пераканалі. Чытачоў, мяркую, таксама. Сапраўды, па ініцыятыве моладзі шмат карыснага зроблена ў Бельскім павеце.

*Гутарку запісаў В. Рудчык*



Пачатак на стар. 1

# СПРАВА НЕ ТОЛЬКІ МАЛАДЫХ

сакароднай і карыснай грамадству справе. Але ёсць жа ў нашым сельскім асяроддзі некаторыя традыцыі, што вельмі шкодзяць людзям і асабліва маладому пакаленню.

Адна з іх — гэта абыякавыя або часцей за ўсё насмешлівыя адносіны да спорту. Бывае, калі хлопец у сяле любіць спорт, аб ім старэйшыя выказваюцца нават абразліва: «Э, у яго яшчэ малако пад носам, бач, мячык па выгане куляе або ў кароценькіх штоніках па поплаве з дзяцьма бегае». Паводле вясковай традыцыі ўважаецца за дарослага таго юнака, што прастаяўшы паўдня ў сельскай краме, выцадзіць 6—8 бутэлек піва, «раздушыць з кумплямі паўлітра» ды праваляецца, бы свіння, запіты пад суседскім плотам. І тады аб такім смаркачу на сяле кажуць: «Глянь, Сымонаў Толік — шпук яшчэ, а гарэлку ды піва, бы стары жлокча». Праціўнае і проста дзікае выказванне! А ў ім не адзін малады нявопытны чалавек, не заўважыўшы іроніі, успрыняў заахвочванне да п'янства. Колькі бяды і гора нясе яно ў нашыя хаты, а мы, старэйшыя, часта мерым дарослась і сталасць моладзі не паводле яе мудрасці і разважлівасці, сілы і спраўнасці цела, але па колькасці выпітых паўлітровак ці асушаных бутэлек «залатога дайлідскага».

Яшчэ больш ядавіта вясковая традыцыя адносіцца да дзяўчат-спартсменак. Няхай жа спрабуе дзяўчына выйсці на спартыўную пляцоўку ў гімнастычным касцюме. Старэйшыя сялянкі і сяляне зараз жа перабяруць яе па костачках: «Глядзі ты, бясстыжая, як перад мужчынамі голай задніцай круціць! А было б жа каму?!» І калі ў дзяўчыны фігурка не зусім такая, як у фільмовай звязды Джыны Лолабрыджыды, паказвацца сваёй вёсцы ў спартыўным касцюме зусім страшна: абняславяць, што і на вуліцу не пакажашся.

Ва ўяўленні нашага сяла спортам маюць права займацца школьніцы ды гарадскія, а вясковае дзяўчо мае працаваць на гаспадарцы, варыць, карміць ды прыбіраць хату, слёпнуць над рознымі там вышыўкамі ды вязаннямі, запасіць прыданнае ў сундук і час ад часу схадзіць на вячоркі на плёткі або паказацца хлопцам, каб выгадна выйсці замуж. Ніхто не скажа, што такія заняткі ў маладосці дадуць будучай гаспадыні і матцы дзяцей сілу і здароўе, спраўнасць і вынослівасць. А яны ёй будуць такімі неабходнымі ў яе будучым працавітым жыцці. І то непараўнальна больш, чым лішняя пара мярэжкавых сурвэтак ці яшчэ адзін свэтар. Значыць, дзяўчатам таксама патрэбен спорт.

На сустрэчы ў Чаромсе моладзь выказвала пажаданне, каб наш часопіс больш месца прысвячаў праблемам сельскага спорту. І «Ніва» будзе гэта рабіць. Гэта справа важная. Дапамогай у пабудове спартыўных аб'ектаў у вёсках і забеспячэнні іх патрэбным абсталяваннем павінна заняцца і старэйшае пакаленне. Мы, старэйшыя, не забірайма ад малодшых іх юнацтва, іх шляхетнага жадання развіваць сваё цела і ўмацоўваць здароўе, іх ахвоты паспаборнічаць у сіле, звітнасці і спартыўнасці. Заахвочвайма маладых да спорту!

*Ігнат Снарскі*



# У ШКОЛЕ Ў ВЕЙКАХ

У вёсцы Вейкі (Беластоцкі павет) ёсць васьмікласная пачатковая школа, у якой зараз вучыцца 75 дзяцей. Будынак школы, праўда, драўляны, але добра абсталяваны ў сярэдзіне. Прыемна пабыць у класных залах. Сцены ўпрыгожваюць цікавыя і арыгінальныя сценгазеты. Ёсць шмат школьных дапаможнікаў, ёсць тут таксама і тэлевізар, і радыёпрыёмнік, і магнетафон. — Калі прыйшоў я сюды працаваць, — успамінае кіраўнік школы Мікалай Ваўрэнюк, — дык перш за ўсё трэба было адрамантаваць школьны будынак. Не было тады вось гэтага, — паказвае кіраўнік у вакно, — гаспадарчага будынка, ні гэтага прысаддзя. Мала было таксама школьных дапаможнікаў. У школе была кепская сталярка і непамаляваныя сцены. Усё гэта зрабілі мы супольна з бацькамі нашых вучняў. Надта адчуваўся недахоп гаспадарчага будынка. Ізноў склікаў я бацькоўскі камітэт, які вырашыў распачаць яго пабудову. Выхад быў толькі адзін. Трэба было будаваць яго грамадскім чынам. Жыхары Веек актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім чыне. Падмурак пабудавалі на працягу аднаго дня, а ўвесь будынак за два месяцы. Ішоў тады 1968 год.



З кіраўніком Ваўрэнюком выходзім мы на школьны панадворак. Вакол абступаюць яго прыгожыя купчастыя ліпы і дрэўцы рабіны. Заходзім у гаспадарчы будынак, дзе абсталявалі майстэрню. Тут адбываюцца ўрокі практычных заняткаў. Можна тут свабодна пілаваць ці прыбіваць. Гэтага грукату не чуваць у школьным будынку. Там могуць спакойна адбывацца ўрокі. Там патрэбна цішыня.

Каля школы новы падмурак, а ля яго спрытна ўвіхаюцца «майстры»-сталяры з гэтай самай вёскі, як паясняе мне далей кіраўнік. Пакуль што кладуць яны яшчэ цэглу, але зараз возьмуцца за драўляныя бэлькі і пачнуць ставіць зруб. — Будуем настаўніцкі дом, — кажа мой субяседнік. — Будаўнічы матэрыял здабылі мы аж у Беластоку. Там было ліквідавана некалькі драўляных будынкаў. Бэлькі аказаліся прыгодныя. Прывезлі іх трактарысты з мясцовага сельгасгуртка. А падмурак удаўся на дзіва. Будавалі мы яго грамадска. Быў гэта наш супольны першамайскі чын. Калі верыць майстрам, дык дом стане яшчэ да канца гэтага года.

Вяртаемся ў школу. Вучні збіраюцца ісці садзіць лес. — Што яшчэ плануеце ў будучыні? — пытаю на развітанне. — У планах застаецца нівеліраванне спартыўнай пляцоўкі і выкананне фасада. Зробім гэта абавязкова. Як бачыце, зараз у нас нядрэнна, а хочацца, каб было яшчэ лепш.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкі*



*Пры будове настаўніцкага дома працуюць Янка Грыка, сын Мікалая і Янка Грыка, сын Францішка.*

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДАР БАРЫЧЭЎСКІ

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## ВІНЦУК ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ.

### ЧАСТКА II

Бадай што найбольш драматычным у жыцці Дуніна - Марцінкевіча былі 1861 і 1863 гады. У 1861 годзе была ліквідавана ў Рускай імперыі паншчына. У 1863 годзе выбухнула студзеньскае паўстанне. Як аднёсся Марцінкевіч да гэтых двух гістарычных фактаў? Не можа быць сумненняў, што глыбока іх перажыў. На яго вачах распадаўся стары свет. Паншчына, падняволеная залежнасць селяніна ад пана — з'явы, у перакананні Марцінкевіча, вечныя, заменьваліся ў руіны. Аднак не цалкам. Далёка не ўся панская зямля перайшла ў сялянскае ўладанне. Селянін у далейшым быў тысячу ніткамі звязаны з памешчыкам, ён умеў дастасавацца да новых умоў і далей піў сялянскую кроў. Марцінкевіч, мабыць, разгубіўся. Сумаваў за строгасцю і стойкасцю даўняга ўкладу жыцця, але, відаць і цешыўся, бо нягледзячы на ўсе ашуканствы рэформы, лёс селяніна ўсё ж такі палепшыўся. А не можа быць сумненняў, што Марцінкевіч спачуваў сялянскай нядолі, і палягшэнне лёсу селяніна не магло яго не цешыць. Праўда, сяляне ў выніку рэформы скарысталі не многа, бо мала страцілі на рэформе паны. Гэтае «не многа» і «мала» задавальняла поўнасцю пісьменніка. Ён быў прыхільнікам умераных крокаў, умераных сацыяльных перамен.

Другі факт, які не мог не ўскалыхнуць душу пісьменніка — гэта было студзеньскае польскае паўстанне. У момант яго выбуху Марцінкевічу было пяцьдзесят чатыры гады. Не будучы афіцэрам, у такім узросце не мог быць радавым жаўнерам. Мабыць, цешыўся з гэтага. Мабыць, перспектыва паўстанцкай валакіты, удзелу ў баях, начовак у лесе не задавальняла пісьменніка. Не значыць гэта, што адносіўся ён да паўстання абыякава. Марцінкевіч меў польска-беларускую душу. Несумненна, лічыў ён рускі царызм сваім ворагам. З гэтай прычыны кожны антыцарскі акт не мог не цешыць пісьменніка. У доме Марцінкевіча панавала атмасфера антыдзяржаўных настрояў. Паяўляліся ў ім людзі, непасрэдна звязаныя з паўстаннем. Дочкі Марцінкевіча прымалі ўдзел у антыдзяржаўным руху. Спявалі патрыятычныя польскія песні, прымалі ўдзел у дэманстрацыях, кантактаваліся з паўстанцамі. Марцінкевіч, зразумела, быў у курсе гэтых спраў. Цешыўся і баяўся. Радасць была кароткай — боязнь доўгай. Руская паліцыя хутка акрэсліла характар удзелу дочак пісьменніка ў паўстанцкіх справах. Адна з іх павандравала ў турму. Вяла сябе там смела. Не затойвала характару сваіх перакананняў і палітычных сімпатый. Заплаціла за гэта высокую цану — павандравала ў глыбіню бязмежнай Расіі. Ці трэба гаварыць, як гэта перажываў Марцінкевіч-бацька, чалавек з эмацыянальным і чулым характарам?

Зрэшты, і сам пісьменнік не выйшаў з гэтага ўсяго сухой нагой. Быў таксама арыштаваны. Не было аднак доказаў, якія б сведчылі аб яго непасрэдным удзеле ў паўстанні. У гэтым часе турмы былі завалены асобамі, схопленымі са зброяй у руках. Гэты факт сведчыў на карысць Марцінкевіча. Паліцыя вызваліла пісьменніка з астрога. Не значыць гэта аднак, што стаўся ён вольным чалавекам. Быў за ім устаноўлены паліцэйскі нагляд. Нагляд гэты працягваўся многа гадоў. Нагляд паралізаваў пісьменніка. Па сутнасці, не мог ён нікуды выехаць па-за свой маёнтак. Апрача гэтага, на Марцінкевіча быў наложаны вялікі грашовы штраф. Маёнтачак падупаў, ашчаднасці змалелі, трэба было абмежаваць выдаткі. Трэба было горш апранацца і горш есці. Зразумела, што ўсё гэта не захапляла пісьменніка, прывыкшага да пэўнага ўзроўню матэрыяльнага жыцця. Пісьменнік некалькі разоў звяртаўся да ўлад у справе адклікання паліцэйскага нагляду, але без выніку. На працягу многіх гадоў заставаўся ён «палітычным неблаганадзёжным». Зразумела, што такі стан рэчаў не мог не адбіцца на яго творчасці. Асабліва на яго беларускай творчасці. Пасля паўстання беларуская мова была забаронена як мова літаратуры. Тармазіла таксама развіццё яго творчасці паяўленне ў польскай літаратуры новага літаратурнага напрамку — пазітывізму. Рамантычны культ пачуцця і народнасці належаў да мінулага. Праца, арганізацыя, брак пашаны да арыстакратыі і шляхты сталі арганічнымі элементамі новага напрамку. Уся канцэпцыя Марцінкевіча аб супольнасці інтарэсаў землеўласнікаў і сялян сталася наіўнай і непрыдатнай. Трэба было дастасоўвацца да новых паняццяў, мод, стыляў. Марцінкевіч стараўся перабудаваць сваю творчасць. Напісаў дзве п'есы, якія з'яўляюцца доказам спробы застацца ў літаратуры, датрымаць кроку пераменам у новай эпосе.

# АГЕНЦТВА АБС
Адна Баба Сказала
ПАВЕДАМЛЯЕ

## Добры паляўнічы

У вёсцы Даратынка Гайнаўскага павету жыве паляўнічы Граматовіч Аляксандр. На паляванне ён выходзіць часта. Калі выйдзе на паляванне, то ніводная звярына ад яго не ўцячэ. Часта яго можна ўбачыць каля вёскі Градочна. У ваколіцы Градочна найпаспалітшая здабыча паляўнічага гэта каты. Але ці паляўнічы ведае, што вясной кошкі котныя, а некаторыя маюць ужо кацянят? Не, гэтага паляўнічы не ведае, таму што калі ўбачыць ката ці кошку, задаволены застрэльвае.

29 красавіка, праходзячы ля нашага дому, які стаіць каля лесу, ён застрэліў кошку, якая мела маленькіх кацянятак. Кацяняткі, якім было два тыдні, засталіся адны. Дарагая «Ніва», што рабіць з такімі маленькімі кацяняткамі, піць малака яны яшчэ не ўмеюць? Папамучалі яны, папамучыліся, бедныя, пакуль мы іх не пазабівалі. Цяпер мы засталіся без ката, мышы нам могуць галовы пааб'ядаць. Заўзяўся на нас гэты паляўнічы, бо яшчэ раней забіў нам вельмі добрага ката.

Дарагая «Ніва», парай, што рабіць, каб зберагчы ката; ці яго трэба прывязваць, каб нікуды не выходзіў, ці замыкаць? Іншага выйсця няма! Калі толькі кот выйдзе за агародку, паляўнічы яго застрэліць.

Таго самага дня Граматовіч забіў і ў другога гаспадара котную кошку, якую ўсе вельмі шкадавалі. Дарагая «Ніва», мне здаецца, што паляўнічага Граматовіча трэба яшчэ раз прашколіць і тады даць яму ў рукі стрэльбу, бо ён павыбівае ў Градочне ўсіх катоў.

*Аня*

Ад цэнтра АБС: Можна і так. Прапануем разважыць і іншы спосаб: замест ката прывязаць, або замкнуць паляўнічага.

— *Тэлеграфіруй: «Ваш сігнал зразумелі кропка віншуем уловам кропка»...*

# НІЎКА

### Галаваломка

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | 2 | 7 | 8 |
| 6 | 7 | 8 | 0 |
| 5 | 4 | 5 | 3 |
| 1 | 9 | 3 | 1 6 |

Палоскі з лічбамі палажыце адну каля другой так, каб лічбы ад 0 да 9 не паўтараліся двойчы.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 4.*

### НЕСПАДЗЕЎКІ

Усім на свеце закаханым
Неба яснае дарэчы.
Я сабраўся на спатканне
За раку ў сяло Зарэчча.

Неспадзеўкі ўвысі хмары
Заклубіліся трывожна.
Праз хвіліну дождж ушпарыў,
Зашумеў травой мурожнай.

Мне на левы бераг трэба,
Як жа быць з бядой такою?
Эх, зажмурылася неба,
Дождж цалуецца з ракою...

*Генадзь Кляўко*

### КАДРЫ НА ПЛЯЖЫ

Галоўны нама сустрэў на пляжы
Ў рабочую пару і кажа:
— Ты што тут робіш?
— Загараю. А вы?
— Я кадры правяраю.

*В. Жуковіч*

### РОЗНІЦА

— Якая розніца паміж адпачынкам на моры і ў гарах? — запыталі ў габраўца.
— У пабочных выдатках, — быў адказ.

*Без слоў.*

### ШЫФРОЎКА

Адзін штурман у час далёкага плавання атрымаў ад жонкі радыёграму такога зместу: «Прыязджай хутчэй. Цалую твае чорныя вочы, залацісты мой!»
— Цьфу ты, чорт! — вылаяўся штурман. — І калі гэта ўжо скончыцца?
— Такая добрая радыёграма, а вы лаецеся, — заўважыў радыст.
— Калі б ты ведаў, што тут напісана, ты б так не гаварыў.
— Што ж такое?
— Чарговая просьба: «Прывязі хутчэй футра з чорнай норкі з залацістым адценкам».

### НА ПЛЯЖЫ

— Неадкладна падрыхтуйце выратавальную лодку!
— А што здарылася?
— Наш інструктар па плаванню надумаўся купацца.

### ДЛЯ КАХАНАЙ

Курсант марской школы піша сваёй каханай. «Для цябе я гатоў пераплысці Атлантычны акіян, кінуцца ў пашчу тыгра, прайсці па дну марскому. І ні бура, ні шторм не спыняць мяне».
Падумаў і ўрэшце дапісаў: «Прыду ў сераду, калі не будзе дажджу».

— *Заўсёды ты выбіраеш самыя глыбокія месцы...*

### МІЖ МАРАКАМІ

Сустрэліся два маракі.
— У цябе з сям'ёю ўсё добра?
— Лепей не пытай.
— Можа, з жонкаю пасварыўся?
— Не, не сварыўся, але я згубіў яе адрас.

### У ІТАЛЬЯНСКАЙ ШКОЛЕ

Настаўнік звяртаецца да вучня:
— Што па форме нагадвае Італія?
— Пепіта падымае руку і выпальвае:
— Гумовы бот.
— А чаму гумовы? — пытае настаўнік.
— Таму, што Італія з усіх бакоў акружана вадой.

### МАРСКАЯ ГАЙДАНКА

Па палубе карабля бяжыць мужчына, заглядае ў кожную каюту і ўсхвалявана пытае:
— Ці няма ў каго лімона? Пані з апошняй каюты дрэнна стала. Марской гайданкі не выносіць.
Нехта дае паўлімона.
— Вялікае дзякуй, — кажа мужчына. — А каньяку ні ў каго не будзе?
Знайшоўся і каньяк. Мужчына хутка адкрыў пляшку, добра глытнуў, закусіў лімонам і пахваліў:
— Добрая рэч. Быццам на свет нарадзіўся. А то аж млосна стала, калі ўбачыў, як загайдала жонку.

— *Адсюль у вас будзе цудоўны від на мора.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны і Барбары, вучаніц з Бельска, змяшчаем песню:

## Dobre były czasy przyjacielu

Słowa polskie: Adam Kreczmar
Opracowanie muz.: Marek Sewen

Dobre były czasy przyjacielu
i pamiętam tak jak gdyby dziś,
że potrzeba było tak niewiele
żebyś wolał zostać tu — niż iść.

Zamknęłam okna, drzwi —
już nie otworzę ci,
już cię nie przyjmie mój gościnny dach.
I droga mnie czeka
daleka, daleka,
i nie wiem gdzie — a tak nie wiedzieć strach.

Dobre były czasy przyjacielu
dawno temu — dobry czasu kęs.
I być może w tym nie było celu,
ale ja widziałem jakiś sens.

Zamknęłam okna, drzwi —
już nie otworzę ci.
Do nikąd nie prowadzi moja sień.
A droga mnie czeka
daleka, daleka,
i nie wiem czy powrócić uda się.

Dobre były czasy przyjacielu
może jeszcze przyjdzie taki czas.
I powiedzmy — będzie to niedziela.
I powiedzmy, że to będę ja.

Zamknęłam okna, drzwi
i nie żal będzie mi,
chociaż to wstyd, a może nawet grzech.
Bo droga nas czeka
daleka, daleka
i nie wiem gdzie, lecz może ty to wiesz.

# КУРЁЗЫ

### СУТЫЧКА З РЭПТЫЛІЯЙ

«Залатым сезонам» лічыцца ў рыбакоў Камеруна перыяд, які прыпадае на канец лютага — пачатак сакавіка: у гэты час вадаёмы краіны малеюць, і рыба, што называецца, «сама ідзе ў рукі». Аднак выпадак, які адбыўся нядаўна на рацэ Ньонг, сведчыць аб тым, што лоўля рыбы становіцца часам небяспечным заняткам.

Жыхар камерунскага горада Аканолінга Гамба Гарба выехаў на сваёй пірозе на рыбную лоўлю, узброіўшыся звычайным кап'ём, якое ён выкарыстоўваў у якасці гарпуна. Велізарны кракадзіл, які знаходзіўся ў раёне лоўлі, відаць, палічыў гэта «замахам» на свае ўладанні і атакаваў пірогу Гарба.

Сутычка з гіганцкай рэптыліяй закончылася ў карысць рыбака. Гарба стаў уладальнікам унікальнага трафея, які ўпрыгожыў бы любую калекцыю. Даўжыня забітага кракадзіла дасягала трох з палавінай метраў, а вага — 200 кілаграмаў.

### «ПЕРАСЯЛЕННЕ» ЛЕПЕНСКАГА ВІРА

З першымі веснавымі днямі аднавіліся работы па завяршэнню «перасялення» Лепенскага віра. Так югаслаўскія археолагі назвалі адно са старажытнейшых паселішчаў чалавека на Зямлі, адкрытае імі ў 1960 годзе на беразе Дуная. Складаная аперацыя па перамяшчэнню каштоўнага гістарычнага помніка выклікана тым, што гэта месца будзе затоплена водамі вялікага штучнага возера.

Многа жылля, некропаль, каменныя статуі і іншыя ўнікальныя збудаванні і прадметы ўжо размешчаны на новых месцах. У хуткім часе пачнецца будаўніцтва гіганцкага купалападобнага даху, які ахавае Лепенскі вір ад непагадзі.

### СМЯЕМСЯ З НАМІ

*Ратуючы судна, што тапае, акіяну не асушваюць.*